Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 33 Нядзеля, 12-га Кастрычніка 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.



# Важны момэнт.

Як можна бачыць з рэзультатаў паездкі дэлегацыі ад Часовай Беларускай Рады ў Варшаву, цяпер надходзе для нас, беларусаў, вельмі важны момэнт.

Момэнт гэты такі, што шмат і вельмі шмат якія рэчы залежаць ад нас самых.

Выясьнена, што ў Варшаве пачынаецца пералом у паглядзе на нашыя куткі, як на нешта, запомненае ўсімі, як на нейкую провінцыю другога разраду.

Урад робіць натугу унармаваць тутэйшае жыцьцё шляхам насьпеўшых рэформаў. Палітычныя польскія кругі, як відаць з сталічнае польскае прэсы, таксама на першы плян высоўваюць аздараўленьне нашага *крэсовага* жыцьця.

Якой-нібудзь адналітай праграмы ў польскіх палітычных кругох датычна нас дасюль няма, але з часам яна павінна вакрышталізавацца.

Мы вельмі шмат пісалі аб тутэйшых балячках, аб іх-жа яшчэ мо' болей можна было чытаць на шпальтах вялікіх польскіх сталічных газэт, і на гэты раз мы хацелі-б закрануць зусім іншае пытаньне чыста-беларускага, так сказаць, унутранага характару.

Пытаньне гэтае—*наша ўнутраная нацыянальная солідарнасьць.*

Яна становіцца на чаргу дня, дзеля таго, што выяўляецца са словаў кіраўнікоў польскае палітыкі магчымасьць шырокае беларускае працы, выяўляецца магчымасьць пераломy ў нашым дасюлешнім жыцьці.

Мы ня так наіўны, каб ня быць пэўнымі ў тым, што навет і тады, калі напраўду зусім рэальна пачнуцца праводзіцца ў жыцьцё патрэбныя беларускаму насяленьню ў Польшчы рэформы, навет і тады могуць пачуцца яшчэ дэмагогічныя разважаньні аб тым, што „абяцанкі-цацанкі“ і г. д.

Нажаль польска-беларускія адносіны ў працягу некалькіх мінулых гадоў ад самага ўваскрасеньня Польскай Дзяржавы не засталіся бяз пэўных фактаў, якія могуць служыць фундамэнтам для вышэйспомненай дэмагогіі.

Жыцьцё заўсёды змывае сваім неўмалімым бегам якую-б ні было дэмагогію і мы цьвёрда верым, што яно сваім рэалізмам заўсёды возьме верх над ёю.

Але ўсё-ж такі, каб абяцанкі не зрабіліся тым, чым яны выражаны ў вядомай прыказцы, аб гэтым мусім старацца й мы самі, бо нашыя нацыянальныя справы нам самым найболей і баляць.

Якраз настае момэнт, калі мы, беларусы, павінны даказаць сваю нацыянальную сьпеласьць і, калі надойдзе магчымасьць рэальнае працы на нашым нацыянальным полі, нам трэба не паўтараць памылак мінулага, не павінны мы распаўзацца „хто ў лес, а хто па дровы“.

Перад кожным з нас вырысоўваюцца пэрспэктывы цяжкае, але затое творчае, працы, ад якой ня маем моральнага права ўхіляцца.

Дакляраваныя ўрадам рэформы, пэўна-ж, ня могуць быць зроблены адным махам, аднак важна тое, што сам урад зразумеў неабходнасьць выйсьці на шлях гэтых, доўгачаканых рэформаў.

Як абяцаныя рэформы будуць рэалізавацца пакажа жыцьцё ў самай бліжэйшай будучыне і само-ж жыцьцё па практыцы будзе ўносіць у гэтыя рэформы свае жыцьцёвыя корэктывы.

Дзеля таго, каб быць гатовымі да прыняцьця рэформаў, беларусам патрэбны жывы удзел у іх рэалізаваньні, а дзеля гэтага патрэбна наша нацыянальная солідарнасьць па крайняй меры ўсіх тых з нас, хто зьяўляецца лёяльным да таго дзяржаўнага будынку, ў якім мы цяпер знаходзімся па волі нашага гістарычнага лёсу.

Каб нас не трактавалі ў Польшчы, як элемэнт антыдзяржаўны — гэта ў вялікай меры залежыць і ад нас самых.

І з нашага беларускага боку якраз шляхам незабаўных рэформаў могуць быць выкінены момэнты, якія кідалі-б на няшчасны беларускі народ дасюлешнія падазрэньні.

Мы верым і ведаем даўно, што беларускі селянін і беларускі інтэлігэнт патрапіць быць ня толькі об'ектам нездаровай агітацыі, а, пры патрэбных магчымасьцях, сам будзе каваць сваю лепшую будучыну ў спакойнай, здаровай творчасьці.

---

# Палітычны агляд.

## Рэлігійнае змаганьне ўва Францыі.

У апошні час зьвяртае на сябе ўвагу змаганьне ўва Францыі ўраду Эрыё з каталіцкім духавенствам. Ведама, гэтае змаганьне не падобна да рэлігійных войнаў сярэднявекоўя, калі рабілі асаду замкаў, палілі гарады і вёскі, рабіліся Бутрымаўскія ночы і „крывавыя лазьні“, гарэлі кастры з гэрэтыкамі і г. п. Хаця й цяпер француская прэса гэты конфлікт называе вайной. Пачаткам гэтай вайны паслужыла пісьмо францускіх кардыналаў да Эрыё і адказ на гэта пісьмо францускага ўраду.

27 верасьня шэсьць францускіх кардыналаў — Люкон (архіепіскап Рэймсу), Андрые (арх. Бордо), Дюбуа (арх. Парыжа), Морэн (арх. Ліону), Шаро (арх. Рэнпа) і Тушэ (арх. Орлеану) паслалі францускаму прэм'еру адкрытае пісьмо, якое ў той самы час паявілася ў прэсе. У той самы дзень францускі ўрад прыгатовіў на гэта пісьмо адказ, які на другі дзень таксама паявіўся ў прэсе. У гэтым пісьме кардыналаў ішла справа аб гэткія тры пытаньні: 1) аб урадовым проекце, які ўводзіць у нова-прылучаных да Францыі правінцыях Эльзасе і Лётарынгіі гэткія-ж адносіны касьцёла да дзяржавы, якія істнуюць ува ўсёй Францыі, 2) аб адносінах да конгрэгацыі, г. зн. манашаскіх і рэлігійных таварыстваў і 3) аб ліквідацыі францускага пасольства пры Ватыкане.

Гісторыя гэтых спрэчных пытаньняў гэткая. Колькі дзесяткоў гадоў назад ува Францыі касьцёл быў аддзелены ад дзяржавы. Каталіцкі касьцёл быў пазбаўлены прывілеяў, якімі карыстаўся ў працягу колькіх сталецьцяў, і адтрымаў роўныя правы з іншымі рэлігіямі, якія падлягаюць агульным законам аб таварыствах. Манастырская маемасьць была канфіскована на карысьць скарбу, а супраціўляўшыяся манахі й духоўныя асобы былі пазбаўлены права жыхарства ўва Францыі. Але каталіцкае духавенства доўга не магло згадзіцца з новым сваім палажэньнем. І як толькі загарэлася вайна ў 1914 годзе і зьявілася небясьпека для ўсяго краю, дык быў кінуты кліч Union Sacree, г. зн. сьвяты саюз. Каталіцкае духавенства, адбываўшае аднолькава з усімі грамадзянамі ваенную службу, ахвотна пайшло ў ваенныя бальніцы, ў армію, як афіцэры і жаўнеры. Union Sacree для некаторых быў згодай духавенства з урадам, сьвецкай улады з духоўнай. Было дазволена вярнуцца манахам, высланым калісь з Францыі. Пасьля пры Пуанкарэ ізноў былі зроблены дыплёматычныя зносіны Парыжа з Ватыканам і абедзьве сталіцы абмяняліся пасламі.

Але як праваліўся ўрад нацыянальнага блёку Пуанкарэ і ўладу ўзяў блёк левых партыяў з Эрыё на чале, пытаньне аб адносінах каталіцкага касьцёла да дзяржавы йзноў паявілася на чарзе. Урад Эрыё прыгатовіў проекты законаў аб строгім падляганьні духоўных таварystваў законам і аб скасаваньні францускага пасольства пры Ватыкане. Але найвялікшы протэст выклікаў проект закону аб аднолькавых правох каталіцкага духавенства Эльзасу і Лётарынгіі. Каталіцкае духавенства гатова было-б пайсьці на ўступкі па першым пытаньням, калі-б толькі новыя законы не закранаді Эльзасу і Лётарынгіі. Францускія кардыналы выступілі з энэргічным пісьмом, пагражаючы ўраду рашучымі спосабамі змаганьня, калі толькі ён не пераменіць сваіх загадаў. А ў самым Эльзасе і Лётарынгіі адбываюцца мітынгі протэсту пад кіраўніцтвам духавенства. Хаця ня меншае значэньне мае й пытаньне аб скасаваньні пасольства пры Ватыкане, ў якім падтрымоў-

вае духавенства навет нацыянальны блёк Пуанкарэ. Офіцыяльны орган Пуанкарэ „Temps“, выказваючыся проці пісьма кардыналаў, усё-ткі выступае на абарону захаваньня дыплёматычных зносінаў з Ватыканам, зьвяртаючы ўвагу на тое, што навет не-каталіцкія дзяржавы маюць свае пасольствы пры Ватыкане.

Але ўрад Эрыё моцна трымаецца свае пастановы, прыняў вызаў каталіцкага духавенства і адказаў на пісьмо кардыналаў, што кожны грамадзянін ува Францыі мае свабоду сумленьня, але ў межах існуючых законаў, і што зусім ня можа дазволіць, каб нехта бараніў францускія інтарэсы ў імя іншых інтарэсаў апроч сувэрэнітэту францускага народу. Адно толькі, ў чым можа зрабіць Эрыё уступку, гэта тое, што ня вышлець за межы францускай рэспублікі тых манахаў, якія ў мінулую вайну служылі ўва францускай арміі і гэтым здабылі сабе права жыхарства.

Кардыналы ў сваім пісьме заяўляюць, што францускае духавенства ня хоча барацьбы, але як толькі яна будзе яму накінута, дык хаця з гарачу, але вызаў прыйме і будзе змагацца. А нядаўна кардынал арх. Бордо кс. Андрые паслаў да Эрыё новае пісьмо, у якім называе пастанову ўраду „масонскай“ і „якобінскай“ і яўна заклікае каталікоў да актыўнага супраціўленьня проці ўвядзеньня закону аб конгрэгацыі. Гэткім чынам можна лічыць, што вайна каталіцкага духавенства з урадам пачалася. Ведама, гэтая вайна ня будзе падобнай да тых крывавых пабоішчаў, якія былі ў часы рэлігійнай вайны XVI—XVII стал. Але, ўзяўшы пад увагу, што большасьць насяленьня ўва Францыі каталіцкая і што каталіцкае духавенства мае вялізны ўплыў на народ, асабліва пасьля сусьветнай вайны, калі ўзмацаваўся ўва Францыі рэлігійны настрой, трэба спадзявацца паважных унутраных палітычных непаразуменьняў, аб якіх нядаўна казаў новы старшыня дэпартамэнцкіх радаў у Эльзасе Обэркірх: „З вялікім неспакойствам я гляджу на рэлігійную вайну, якая пагражае ўсёй Францыі. Мы ня так дужыя, каб дапусьціць да ўнутранай барацьбы і раздваеньня“...

Але вызаў прыняты з абодвых бакоў, і бяскроўная вайна ўжо пачалася.

*N.*

# Дэлегацыя Беларускай Рады ў Варшаве.

Прэзыдыум Часовай Беларускай Рады 3-га гэтага кастрычніка выслаў у Варшаву дэлегацыю ў складзе Прэзэса Рады п. Паўлюкевіча і Віцэ-Прэзэса п. Більдзюкевіча дзеля прадстаўленьня паасобным міністрам Польскага Ураду пажаданьняў хутчэйшае рэалізацыі, як языковых законаў, таксама і аб прыняцьці цэлага раду мер, якія маюць на мэце палепшаньне быту беларускага насяленьня ў нашым краі.

Дэлегацыя таксама высьвятліла, што без правядзеньня рэальных рэформаў, — як школьная справа, зямельнае пытаньне і справа самаўрадаў,—паагул немагчыма аздараўленьне ненармальнага краёвага жыцьця.

10-га гэтага кастрычніка раніцай беларуская дэлегацыя вярнулася ў Вільню.

Аб рэзультатах яе місіі мы сьпышаем паведаміць нашых чытачоў, папераджаючы, што ўвесь абшырны матар'ял ня можа зьмясьціцца ў адным газэтным артыкуле.

Пакуль што, мы даведаліся аб гэткім рэзультаце конфэрэнцыі дэлегацыі з п. Міністрам Унутраных Справаў.

Зьвярнуўшы ўвагу п. Міністра на дасюлешнюю адсутнасьць у Польскага Ураду і ў польскага грамадзянства выразнае праграмы па беларускаму пытаньню, дэлегацыя зазначыла, што як гэтае зьявішча, таксама і антыдзяржаўная прапаганда ў нашым краі выклікала цяперашнюю сумную сытуацыю на акраінах Польшчы.

У сваім адказе п. Міністар зазначыў, што ў сучасны мамэнт Урад разумее неабходнасьць рэалізацыі, як новых языковых законаў, таксама і хутчэйшага правядзеньня ў жыцьцё зямельнай рэформы і самаўраду. Законапроект аб самаўрадзе ўжо Урадам выпрацаваны і ў пачатку васеньняй сэсіі будзе прадстаўлены на разгляд Сойму.

Законапроект гэты мае на ўвазе замяшчэньне беларусамі ня толькі ніжэйшых адміністрацыйных пастоў, як воласьць, але ахапляе сабою паветы (стараствы) і ваяводатвы. Закон аб самаўрадзе зараз-жа, пасьля прыняцьця яго парлямэнтам, будзе праведзены ў жыцьцё, больш-менш не пазьней чароднае вясны.

Урадам праектуецца стварэньне асобнага цэнтральнага адміністрацыйнага органу, для „крэсовых“ справаў.

На выказанае дэлегацыяй пажаданьне палепшыць адміністрацыйны пэрсонал у нашым краі, п. Міністар адказаў, што ён добра разумее недахваты, якія ёсьць у гэтым сэнсе і што ў зьвязку з агульным аздараўленьнем нашага жыцьця ім будзе зьвернена ўвага на тое, каб адміністрацыйныя пасты былі абсаджаны адпаведнымі людзьмі.

Дэлегацыя спамянула аб цяжкім палажэньні позна вярнуўшыхся з Расеі бежанцаў, ня трапіўшых у лік тых, якім давалася дзяржаўная падмога на адбудову.

П. Міністар адказаў на гэта, што справа гэтая будзе ўзята Урадам пад увагу і аб ёй ведама навет п. Прэзыдэнту Рэспублікі, які пры аб'езьдзе нашага краю асабіста зьвярнуў увагу на бядацкае палажэньне былых бежанцаў.

Урадам мае быць зроблена ўсё, што толькі магчыма, каб урэгуляваць гэтую справу.

Пасьля конфэрэнцыі з Міністрам, дэлегацыя адбыла рад конфэрэнцыяў з паасобнымі дэрэктарамі дэпартамэнтаў, каб абгаварыць дэтальна ўсе парушаныя ў п. Міністра справы.

Найбольшая ўдача спаткала дэлегацыю пры конфэрэнцыі з п. Міністрам Прасьветы і Рэлігіяў, аб чым падзелімся з паважанымі чытачамі ў чародным нумары.

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

У канцы кастрычніка ў Варшаве адбудзецца зьезд ваяводаў усяе Рэспублікі. На зьездзе будуць разглядацца адміністрацыйныя пытаньні. Палітычных пытаньняў зьезд чапаць ня будзе. Галоўным пунктам павесткі дня будзе разгляд справы рэарганізацыі адміністрацыі ў заходняй і ўсходняй часьці Рэспублікі.

Працы над бюджэтным прэлімінарам на 1925 год ужо закончаны і прэлімінар гэты пасланы ў друк. Паслы адтрымаюць друкованыя экзэмпляры 18. X і першае чытаньне бюд'жэту адбудзецца на першым паседжаньні Сойму. Пры гэтым прэм'ер-міністар выступіць з expose, падзеленым на тры часьці: палітычную, фінансавую і гаспадарчую.

Пэрсідзкі пасол, які гэтымі днямі прыяжджае ў Польшу, пачне перагаворы аб гандлёвам трактаце і дагаворы аб вечнай прыязьні паміж Польшчаю і Пэрсіяй.

У палове гэтага месяца адбудзецца сабраньне партыі „Wyzwolenie“. Паседжаньні будуць мець важнае значэньне, бо на іх мае выясьніцца пазыцыя партыі датычна былага яе лідэра пасла Тугута, які вяртаецца ў Варшаву 14 гэт. месяца.

Саветы прыслалі Польскаму Ураду ноту, прапануючы скліканьне польска-савецкае конфэрэнцыі па справе апанаваньня бандытызму, які разрастаецца на пагранічча.

**R. U. S.**

# Праўда і няпраўда ў камунізьме

*(Глядзі № 32 „Грам. Голасу“).*

Адчувае гата цяпер на сабе Расея. Забойствы, грабежствы, кражы — штодзеннае зьявішча. Навет дзеці 10—12 гадоў робяцца бандытамі і зладзеямі. Крадуць і забіваюць, бо ніхто не апякуецца імі, ніхто іх ня вучыць, ніхто не паказвае ім вышэйшых мэтаў жыцьця. Палова насяленьня Расеі жыве цяпер у найвялікшым моральным паніжэньні, для яго няма нічога сьвятога, ані сям'і, ані пашаны чужой маемасьці. У расейскім народзе не хапіла сумленьня і чэснасьці, а забілі яе ў чалавечых душах камуністыя, вырываючы з іх веру, а разам з ёю й падставы маральнасьці.

Камуністычная дзяржава паводле прымерніка, які дае нам С.С.Р.Р., гэта дзяржава бяз Бога, без рэлігіі, без царквы, Грамадзянства, ў душы якога няма ніякага моральнага тормазу, будзе само сябе зьнішчажаць рознымі ліхадзействамі.

V.

### Камунізм, як дзяржава.

Вандэрвэльд, кажучы аб заснаваньні соцыялістычнае дзяржавы, гэтак кажа аб момэнце, ў які гэта будзе магчыма:

„Калі вызвалены пролетарыят пачне жыць запраўдным чалавечым жыцьцём, калі ўсе рабочыя будуць даволі культурныя, калі ўсе пасьля скончанай працы будуць мець свабодныя часіны — тады і толькі тады народзяцца рэчы запраўды харошыя“.

Аднак Вандэрвэльд думае, што, пакуль што, пройдзе шмат часу, які будзе патрэбны на падгатоўку да гэтай часіны. Ен таксама прызнае і тое, што незаўсёды пашырэньне агульнай уласнасьці, значыцца ўвядзеньне камуністычных прынцыпаў у грамадзкі лад, выклікае пашырэньне свабоды. Гэта можа быць толькі ў грамадзянстве з надта высокай культурай, у якім—паводле Вандэрвэльда—ня будзе ўжо эгоістых, значыцца гэткіх людзей, якія хацелі-б зьбіраць для сябе нейкія даходы, а ўсе будуць імкнуцца толькі да грамадзкага шчасьця, якое абыймае ўсіх на зямлі.

З гэтага выплывае, што заснаваньне соцыялістычнае дзяржавы было-б магчыма ўзапраўды толькі тады, калі гэтыя прынцыпы абнялі-б ўвесь сьвет і нейк нанова выхавалі-б людзей. Нажаль, мы павінны ад'значыць, што гэткая перамена чалавецтва немагчыма, а прынамсі ня надта лёгкая рэч. Гэтулькі нязгодных інтарэсаў трэба было-б пагадзіць з сабой, гэтулькі выгнаць зла з чалавечых душаў, што могуць прайсьці сталецьці, а ўвесь сьвет ня будзе злучаны пад клічам згоды і брацтва.

Вандэрвэльд кажа, што арганізацыя соцыялістычнае дзяржавы будзе гэткая, што праца будзе абавязкам кожнага чалавека, а гэткім чынам будзе агульным законам. Ен робіць з гэтага вывады, што ня будзе людзей, якія не маглі-б знайсьці працы і ніхто ня будзе яе пазбаўлены. Асабістая свабода ня будзе агранічана, але кожны будзе падлягаць нейкім законам, якія гэты абавязак працы будуць раскладваць і рэгуляваць яе выкананьне. Здаецца на першы пагляд, што ня можа быць лепшай грамадзкай арганізацыі.

Але жыцьцёвая практыка, якую мы бачым, далёка адхілілася ад гэтага прымерніка. З харошых тэорыяў Вандэрвэльда ў цяперашняй дзяржаве расейскіх камуністых нічога не засталося.

Свабода, якую мелася даць соцыялістычная дзяржава, замянілася бязумоўнай няволяй. Над усей Расеяй усемагутна пануе тайны трыбунал, усім ведомая «чэка», якая праз сваіх шпіёнаў заглядвае навет у сямейнае зацішша і штодня тысячы ахвяр цягне ў расейскія вастрогі. Шпіёнская сыстэма разьвілася да нячуваных разьмераў; за рабочым сочаць і ў хаце, і на рабоце, на вуліцы і на сходах. Найменшая нязгоднасьць з камуністычнымі прынцыпамі, данос асабістага ворага, усё гэта кожную часіну можа ўсадзіць чалавека ў вастрог або навет пасланць на сьмерць. Гэткім чынам асабістая свабода перастала істнаваць. Камуністычная дзяржава арганізавана, як механізм, дзе кожнае колачка павінна гэтак круціцца, як яму дазволена, дзе—інакш кажучы—ніхто ня мае права думаць інакш, а толькі так, як дазваляюць тыя, хто кіруе дзяржавай.

Арганізацыя працы, якая паводле Вандэрвэльда ў соцыялістычнай дзяржаве мелася даць усім работу, таксама ў практычным жыцьці ня споўніла сваіх абяцанак. У Расеі мільёны людзей бяз працы, і ані ўрад, ані грамадзянства ня могуць даць працы, дзеля таго, што пры гэтакай дзяржаўнай і грамадзкай арганізацыі, якая цяпер у Расеі, гэта немагчыма.

Соцыялістычная дзяржава мелася дапусьціць

## За граніцай.

У Англіі Урад Макдональда пацярпеў няўдачу. На паседжаньні парлямэнту 9. X. консэрватары ўнясьлі прапазыцыю аб вотуме даверыя да Ураду, аднак хаця гэткая прапазыцыя была правалена 359 галасамі проці 198, ўсё-ж такі была прынята прапазыцыя лібэралаў 364 галасамі проці 198 аб тым, каб вызначыць сьледчую камісію па справе рэдактара „Workers Weekly". Кароль падпісаў дэкрэт аб роспуску парлямэнту і назначэньні новых выбараў на 29 гэтага кастрычніка.

„Daily News" паведамляе, што туркі выслалі ў Мосульскі віляйет ваенную падмогу, заняўшую стратэгічныя пункты.

У Нямеччыне кабінэт міністраў абгавараваў унутранае палітычнае палажэньне і перш за ўсё пытаньне аб пашырэньні свайго складу.

Парлямэнцкая фракцыя нямецкіх нацыяналістых прыняла рэзалюцыю, ў якой адабрае пазыцыю сваіх прадстаўнікоў і даручае ім весьці перагаворы па пытаньню аб пашырэньні кабінэту.

У Францыі камісія сэнатара дэ-Монзі аднагалосна дайшла да паразуменьня па пытаньню аб прызнаньні ўраду С. С. Р. Р.

У Югаславіі ваенны міністар падаў прэм'еру Давідовічу прашэньне аб адстаўцы, мотывуючы свой крок тым, што ён ня можа згадзіцца з антыдзяржаўным павядзеньнем пэўнае часьці ўрадовае большасьці. Міністар даў зразумець, што ён думае аб партыі Радзіча, якая вазьме учасьце ў працах Скупшчыны.

У Літоўскім сойме народная партыя зрабіла запрос міністру ўнутраных справаў, ці праўда, што паліцыя ўжывае пры дапросах цялесныя кары.

Згодна з весткамі з Мукдэну, армія Чан-Со-Ліна разьбіла ўрадовыя войскі і заняла Шанхай-Кван. Разьбітая армія ў беспарадку адступіла на Сін-Ванг-Тао.

З Масквы паведамляюць, што патрыярх Ціхан сур'ёзна захварэў.

Румынія замерваецца паведаміць Лігу Народаў аб скіраваных проці яе дзеяньнях саветаў.

## Агляд прэсы.

У апошнія часы „Kurjer Poranny" шмат месца на сваіх шпальтах аддае справе палажэньня на *крэсах;* у адным з апошніх нумароў у артыкуле „Wśród białorusinów" высказвае шмат гэткіх цікаўных думак на тэму аздараўленьня крэсаў:

На фоне апошніх бандыцкіх нападаў на Крэсах, нацыянальныя справы варочаюцца на парадак дня ў форме больш войстрай, чымся калі-колечы...

...Калі справа супакаеньня крэсаў ня будзе разгледжана прынцыпова, дык крокі адміністрацыі ня толькі разьмінуцца з галоўнай мэтай, але ўвядуць яшчэ вялікшы хаос, дзеля таго, што робяць уражаньне, быццам урад думае ўрэгуляваць адносіны на Крэсах, высылаючы карныя аддзелы, якія міма волі крэсовага насяленьня напамінаюць памятныя расейскія „карательные отряды".

Супакаеньне Крэсаў, аблічанае не на вельмі кароткую мэту, справа нялёгкая, дзеля таго, што ані ўрад, ані палітычныя партыі ня маюць у гэтай справе выразнай лініі. Дык вось нацыянальная палітыка больш залежыць ад міністраў унутраных справаў, асьветы або ад паасобных ваяводаў. А чаго можна спадзявацца ад гэтых міністэрстваў, калі ў Мін. Унутр. Спр. начальнікам палітычнага аддзелу служыць нейкі п. Руткоўскі, які як быўшы давераны правых дэмагогаў пав'нен рабіць усё такое, што настройвае крэсовае насяленьне проці Польшчы.

Не лепей справы йдуць і ў міністэрстве асьветы, якое ўжо даўгі час думае аб рэпрэсіях, а не аб направленьні адносін.

Далей газэта піша аб бясправнасьці віленскай беларускай гімназіі і рэзультатах гэтага—выезьдзе матурыстаў на загранічныя унівэрсытэты, дзе моладзь выхоўваецца ў духу варожым да Польшчы.

Ці п. міністар Міклашэўскі абліччыў рэзультаты гэткай палітыкі? Ці ўзяў пад увагу, што тысячы гэтых маладых людзей варочаюцца ў Польшчу, як зусім варожы элемэнт.

Не лепей дзеецца і ў адміністрацыі. Як ведама, соймавы клюб „Вызваленьня" утварыў г. наз. камісію пяцёх, якая павінна заняцца спэцыяльна высьвятленьнем патрэбаў нацыянальных меншасьцяў на крэсах і апрацаваць рэальны проект аздараўленьня адносін дзеля прадстаўленьня яго для ўраду.

Рэзультаты гэтага працаваньня справы сумныя. Ад паслоў, якія асабіста аб'яжджаюць крэсы, мы даведаліся, што адміністрацыя, а значыцца старасты а навет ваяводствы ў значнай большасьці не спаўняюць загадаў (sabotują), якія маюць на мэце направіць адносіны.

Вось напр., пасьля прыняцьця закону аб мовах, колькі старастаў заявілі, што ўвядзеньне яго ў жыцьцё—сьмешнае дамаганьне. Дык няма дзіва, што распаўсюджваецца думка, быццам гэты закон прыняты толькі для Лігі Народаў.

Гэткая думка надта Польшчы шкодзіць, а палажэньне на Крэсах дае повад да ўмяшацельства Лігі Народаў і прадстаўнікоў паасобных чужых дзяржаваў.

У часе бытнасьці ангельскага прадстаўніка Лігі, Морэля, ў Вільні беларуская і літоўская дэлегацыі даручылі яму мэморыял аб нацыянальным прыгнечаньні на Крэсах, асабліва падчыркаваючы зьдзекі ў Віленскім і Навагрудзкім ваяводствах.

...Апрача палітычных пераменаў вялікай вагі ёсьць справа палепшаньня быту беларусаў, якія жывуць у бядзе і цемры. Адбудова (не паладаў, але сялянскіх хатаў), коопэратывы, зямельная рэформа, справядлівая раскладка падаткаў, крэдыт для малазямельных гаспадароў — вось найважнейшыя рэчы, якія могуць направіць адносіны і прывязаць беларускі люд да Польшчы.

Гэтыя справы побач са справамі прасьветнымі рашаюць пытаньне аб згодным жыцьці з беларусамі ў межах Рэчыпаспалітай, дзеля таго што мітынгі, абцанкі, а навет паважныя палітычныя зьмены нічога не гавораць беларускаму сялянству, якое ня цікавіцца палітычнымі праграмамі, бо звычайны беларускі селянін несьвядомы нацыянальна.

Тут аўтор, дужа абмыляецца. Аб нацыянальнай несьвядомасьці можна было казаць яшчэ колькі гадоў назад, але не цяпер, калі беларуская сьвядомасьць, ня гледзячы на цяжкія абставіны, а можа дзякуючы ім, сільна вырасла.

## ПА СЬВЕЦЕ.

### Скрыпка Страдыварыюса.

У Маскоўшчыне, ў месьце Рыбінску знойдзена скрыпка, зробленая Страдыварыюсам. Скрыпка гэта належала ў свой час да Веняўскага. На скрыпцы ёсьць два надпісы: ў сярэдзіне на споднай дошцы корпусу скрыпкі выбіта: Antonius Stradivarius Anno 1725 A.+S.; другі надпіс на заднім баку галоўкі ў скрыпцы гэткі: Violon d'artiste Wieniawsky.

### Амэрыканскі рух.

У цяперашні час у Нью-Іорку ў небаскрэбах па 10, 20 і 25 паверхаў знаходзіцца ў бесьперастанным руху больш як 12.000 віндаў. Гэтыя вінды ў сярэднім перавозяць 10 мільёнаў людзей у дзень!

### Цыфры аб Гішпаніі.

Па апошнай перапісі, зробленай у Гішпаніі, насяленьне яе даходзіць да 21.338.381 чалав. З іх не адтрымалі пачатковай адукацыі 11.145.444 чалавекі. Калі адкінуць з гэтага ліку дзяцей, маладшых за 6 гадоў, дык усё-ж такі лік няпісьменных дасьць ня менш як 45,46 %. Сярод мужчын процэнт няпісьменных даходзіць да 38,38 %, сярод жанчын ён значна вышэйшы і даходзіць да 52,04 %. Найболей высокі процэнт няпісьменных у чыстаземляробскіх акругох: Эстрэмадуры, Андалузіі, Мурсіі або на Канарскіх астравах, дзе лік няпісьменных хістаецца паміж 64—71 %. У Каталёніі і на Балеарскіх астравах, дзе ў 1900 г. няпісьменных было яшчэ 61,07 %, паводлуг апошняй перапісі, гэты процэнт паменшаў да 39,71 %. а ў месьце Барцэлёне ён даходзіць у сярэднім для абодвух полаў да 26,69 %.

---

да ўчасьця ў праўленьні усё грамадзянства. Узапраўды ёсьць інакш. Выбары ў Расеі адбываюцца пад пагрозай стрэльбаў і прымусу. Нявыгадных для ўраду кандыдатаў арыштоўваюць або зусім не дапушчаюць, каб іх выбралі. Прынцып агульных выбараў гэта мана, якую ўрад навет не стараецца прыкрыць нейкімі хаця-бы на першы пагляд справядлівымі загадамі.

Вандэрвэльд кажа, што у соцыялістычнай дзяржаве ня будзе чорных сьпіскаў, г. зн. выкіданьня рабочых з працы за ідэйна пераканаць.

Узапраўды ў Расеі кожны рабочы, якога толькі падазраваюць, што ён контр-рэвалюцыянэр, ня знойдзе нідзе працы.

Камуністычная дзяржава, як дзяржава, якая толькі сілай падтрымоўвае сваю ўладу, апіраецца на дзьвёх падставах: на тэроры і на войску. У расейскіх гарадох падтрымоўваюць парадак або чырвонаармейцы або чразвычайкі, кіраваныя камісарамі, або кулямёты бальшавіцкае арміі. Дзеля гэтага трываласьць гэткай дзяржавы можа быць аблічана толькі датуль, пакуль хопіць грошай на ўтрыманьне арміі жандароў і войска. Ад той часіны, як ня хопіць грошай, усё пачне развальвацца і прападаць. Дык вось С. С. Р. Р. увесь час стаіць на вулькане. Штораз цэлыя абшары краю кідаюцца на барацьбу з бальшавіцкімі тыранамі, штораз тысячы людзей ідуць у вастрог за тое, што захацелі змагацца за сваю волю і свабоду сваіх пераконаньняў. Бальшавізм у Расеі — гэта аграмадзіна на гліняных нагах, якая разваліцца, бо разваліцца павінна.

Зьніштожыўшы зусім край, бальшавікі стараюцца дабыць грошы на падтрыманьне свайго існаваньня за граніцай. Зрабілі дагавор з Англіяй і паставілі ўмову, каб ім далі значную пазыку. Яны цяпер прабуюць завязаць адносіны з Францыяй, а таксама толькі дзеля таго, каб дастаць ад яе пазыку.

Калі ім гэта ня ўдасца, дзяржаўны лад савецкай Расеі захістаецца, а масы галадаючага насяленьня, якому ўрад ня можа даць падмогі, зальюць усю дзяржаву; гэта будзе першы крок да зьніштажэньня бальшавізму ў Расеі.

### VI.

### Ці мы можам быць камуністымі?

На гэтае пытаньне адказваем ясна і выразна — не!! Бо камунізм — гэта аддача чалавецтва ў наццяжэйшую няволю, гэта загуба цывілізацыі, зьніштажэньне варстатаў працы, заснаваньне дзяржавы—жандара, якая ўладай гвалту і тэрору давядзе насяленьне да поўнай руіны.

Вайна забрала Расеі 3½ мільёны насяленьня. Праз час бальшавіцкага ўрадаваньня голад і хваробы забралі каля 6-ёх мільёнаў. Дык бачым, што бальшавіцкае ўрадаваньне для Расеі страшнейшае за 10 гадоў сусьветнае вайны.

Камунізм змагаецца з рэлігіяй, адбіраець ад веруючых цэрквы, школы перарабляе на распусныя дамы для дзяцей, дзе выхоўваюцца выразкі грамадзянства.

Камунізм стараецца пранікнуць і да нас. Кідае харошыя клічы аб волі і брацтве, аб праве самавызначэньня народаў, а ў той самы час у сябе ў моры крыві затапляе ўсялякую спробу дамаганьня свабоды. Нядаўна паўстала проці саветаў Грузія, дамагаючыся свабоды і права на самастойнае жыцьцё. Савецкі ўрад выслаў на ліквідацыю паўстаньня самых крыважорчых гэнэралаў і ўвесь край быў абняты вагнём. І гэтак усюды.

Дзеля гэтага, трэба бязумоўна змагацца з камуністычнай агітацыяй усюды, дзе толькі з ёю спаткаемся. Селянін не павінен падтрымоўваць камунізму, бо ён адбяре ад яго зямлю, зробіць яго дзяржаўным рабочым, будзе забіраць у яго жывёлу ды збожжа.

Рабочы ня можа падтрымоўваць камуністых, дзеля таго, што яны зьніштажаюць фабрыкі, ў якіх ён мае працу, вазьмуць яго ў няволю „чэка", зробяць з яго бязвольную машыну, якая павінна слухацца загадаў камісараў, сьлепа і бяскрытычна пад пагрозай голаду, бяды, а нават сьмерці.

А для інтэлігэнцыі ў камуністычнай дзяржаве месца зусім няма. Аб гэтым сьведчаць зачыненыя ў Расеі унівэрсытэты, тысячы выкінутых з унівэрсытэтаў студэнтаў толькі за тое, што яны не хацелі сьлепа слухацца бальшавікоў, дзесяткі тысячаў расейскіх эмігрантаў раскінутых па ўсёнькім сьвеце.

Соцыялістычная дзяржава будучыні ніколі ня можа быць камуністычнай дзяржавай. Чалавецтва ня знойдзе ў ёй жаданага шчасьця, а ні здаволеньня.

*(Канец).*

### Просьба быўшае імпэратрыцы.

Быўшая аўстрыяцкая імпэратрыца Зіта зьвярнулася церав свайго брата прынца Сікста Пармскага да француската ўраду з запытаньнем, ці будзе ёй пазволена пасяліцца з дзяцьмі і невялікаю сьвітаю ўва Францыі. У выпадку добрага для яе адказу, яна хоча пераехаць з Лекіэто ў Гішпаніі, дзе яна цяпер жыве, ў замак Шамбор на Люары, які належыць да Бурбонаў.

### Знойдзенае багацьце.

Нядаўна ў штаце Онтарыё ў Канадзе была знойдзена крыніца газу, які зьмяшчае ў сабе 0,2 проц. гэлію. Гэлій цяпер мае вялізнае тэхнічнае значэньне, як матар'ял дзеля надуваньня паветраплавальных балёнаў, дзеля таго, што газ гэты шмат выгаднейшы за ранейшы вадарод, таму што ён цяжэй запальваецца, чым ся апошні, вымагаўшы надта вялікае асьцярожнасьці. Канадскі ўрад мяркуе, што гэтая крыніца дасьць магчымасьць ізалявацъ у працягу году 420.000 кубічных мэтраў чыстага гэлію.

### Неспакой на востраве Кубе.

Паводлуг вестак з Нью-Іорку, 6-га гэтага кастрычніка на востраве Кубе (ў Атлянтычным акіяне, на шырыні Паўночнай Амэрыкі) у зьвязку з выбарамі адбыліся значныя непарадкі, падчас якіх 7 чалавек было забіта, 57 ранена, часткаю цяжка. Непарадкі выклікала тая акалічнасьць, што аддзел паліцыі прабаваў разагнаць сход, сабраны быўшым прэзыдэнтем Мэнокалем. Мэнокаль стараецца ізноў быць выбраным у прэзыдэнты, калі скончацца поўнамоцтвы цяперашняга прэзыдэнта. Страляніна, паўстаўшая пры разгоне сходу, цягнулася якраз дзьве гадзіны. Каб спыніць яе было выклікана войска міліцыі.

### Дзяржаўны доўг Фінляндыі.

На 1-е кастрычніка сёлетняга году дзяржаўны доўг Фінляндыі раўняецца 2.308.996.220 фінскіх марак, з якіх 1.424.576.120 мк. складаюць загранічныя даўгі, а рэшта—унутраныя. У працягу верасьня агульны разьмер даўгу зьменшыўся на 3.000.000 фін. марак.

---

## У С.С.Р.Р.

### Арышты ў чырвонаармейскіх казармах.

У Маскве апошнімі днямі верасьня месяца бягучага году ў Спаскіх казармах агентамі ГПУ ашыштована пры ўчасьці каманднага складу група чырвонаармейцаў-камуністых. Арыштованыя абвінавачаны ў тым, што яны абгаваравалі з прадстаўнікамі ад маскоўскае рабочае групы апошнія пастановы Палітбюро, якія датычаць ліквідацыі органаў рабочай групы і высылкі з Масквы актыўных яе прадстаўнікоў.

### Пасьля паводкі ў Ленінградзе.

На нарадзе гаспадарчых і фінансавых органаў у Ленінградзе устаноўлена, што, як і трэ' было спадзявацца, места пазбаўлена магчымасьці ўласным коштам адбудаваць вялізарныя руіны, зробленыя паводкаю. Бюджэт па камунальнай гаспадарцы, як піша „Экономическая Жизнь" „і без таго трудна зьвясьці без дэфіцыту". Прызнана неабходным ні ў якім выпадку не аслабляць падатковага націску і не дапушчаць адсрочкі пры аплаце падаткаў.

Ад паводкі загінуў на Пуцілаўскім заводзе вельмі дарагі архіў, у якім было каля 100 тыс. рысункаў (плянаў), назьбіраных за паўгода.

У памешкаваньні кніжнага фонду папсована каля 7 тысяч томаў, папсаваліся фотографічныя адбіткі і гравюры.

### Сьледам за Савінковым.

Бэрлінскія газэты паведамляюць, што ў Адэсу з Канстантынопаля прыехаў на параходзе „Альбано" карнілавец, займаўшы адзін час пасаду начальніка штабу карнілаўскае «арміі», гэнэрал Тунэбэрг. Разам з ім прыехаў таксама афіцэр Сямёнаў.

### Напярэдадні новай катастрофы.

Парыская газэта „Matin" піша, што С. С. Р. Р. знаходзіцца напярэдадні гэткае самае катастрофы, якую ён перажыў у 1921 г. Голад у гэтым годзе ахапіў галоўным чынам тыя губэрні, якія галадалі ў 1921 г. і, значыцца, яшчэ не пасьпелі ачуняць. Згодна з савецкаю статыстыкаю, каля 7 мільён. насяленьня ахвяравана на голад. Напраўду, дык гэтая цыфра куды большая. Праціўнікі вывазу хлеба цьвярдзяць, што галадаць мае каля 25 мільёнаў насяленьня. Палажэньне робіцца тым больш грозным, што бальшавіцкі ўрад ня можа ў гэтым годзе разьлічаць на падтрыманьне звонку, асабліва з боку Амэрыкі. Амэрыканскі ўрад заявіў, што ня дасьць ніводнага даляра радаваму ўраду, пакуль бальшавікі не пакінуць вывозіць хлеб за граніцу. Аднак-жа, экспорт хлеба з Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік ідзе далей. Гэтае трагічнае зьявішча тлумачыцца аднэю толькі над'звычайна труднаю фінансаваю сытуацыяю. Красін з Сакольнікавым лічаць вываз хлеба адзіным спосабам дзеля забясьпечаньня роўнавагі бюджэту і ўтрыманьня курсу новае валюты. Яны даказваюць, што спыненьне хлебнага экспорту выклікала-б фінансавую і адміністрацыйную анархію. Дзякуючы гэтаму ў С.С.Р.Р. узмацняецца антыўрадовы рух. Навет курская рада давяла да ведама Масквы, што забараняе ўсялякі вываз хлеба з губэрні. На Украіне 229 профэсыянальных саюзаў заявілі протэст проці вывазу хлеба з Новарасейску. Партовыя рабочыя забаставалі, ня хочуць грузіць хлеба на параходы.

Палажэньне пагаршаецца яшчэ новаю хваляю эпідэміяў. Камісар па ахове здароўя Сямашка ў сваёй справаздачы за 1924 год ад'значвае 260.000 выпадкаў захварэньня цынгою, 706.000 тыфусам і каля 4.800.000 яшчэ нейкаю новаю хваробаю, падобнаю да малярыі (трасцы), што распаўсюджана на Украіне.

Найцяжэй адбіваецца голад на інтэлігэнцыі, пазбаўленай блізу што ўсякага ўрадовага падтрыманьня. На моцы апошніх радавых дэкрэтаў, выгнана з адміністрацыйных установаў большасьць інтэлігэнцыі. Як паведамляе „Экономическая Жизнь", выкінена гэткім чынам на вуліцу 343.000 чалавек вольных профэсіяў. Асобы гэтыя заменены тымі, хто амаль што ня ўмее пісаць. Сярод безработных ёсьць 5.000 інжынераў, працаваўшых да апошняга часу ў нацыяналізованых савецкіх прадпрыемствах.

---

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Новая беларуская кніжка.** Друкованыя ў нашай газэце імпрэсіі Дзяргача пад агульным загалоўкам „Тыпы Палесься" выйшлі з друку асобнай адбіткаю; ў кніжцы 129 страніц малога формату. Купляць яе, пакуль што, можна ў нашай Рэдакцыі.

= **Аудыенцыі ў міністра прасьветы.** Заўтра, ў панядзелак 13 гэтага кастрычніка, п. міністар прасьветы й рэлігіяў будзе прымаць ад 14 да $15\frac{1}{2}$ гадзіны тых, хто запісаўся на аудыенцыю ў памешканьні Дэлегатуры.

= **Падаткі.** Магістрат апублікаваў паведамленьне аб уплаце да 1 лістапада г. г. падатку за коні па 40 злотых, за параконны воз — 40 злотых, за аднаконны — 30 злотых, за брычку — 20 злотых і за карэту — 60 злотых. Грошы павінны быць унесены ў пакой № 169. За неўнясеньне падатку ў срок будзе брацца штраф па 4 проц. штомесяца.

= **Просьба аб палёгках.** Сярод платнікаў падаткаў, што належаць да сельска гаспадарчых кругоў, паўстала думка зьвярнуцца з просьбай да п. Прэзыдэнта Рэспублікі аб палёгках пры плаце падаткаў.

= **Бандытызм ці самазванства?** Каля $1^{1}/_{2}$ гадзіны ўночы з 10 на 11-е гэтага кастрычніка ў кабінэт Рады Старшыняў Беларускага Грамадзянскага Сабраньня ўварваліся тры суб'екты, вельмі прыгожа апраненыя, і адразу зьвярнуліся папольску да прысутных у кабінэце грам. В. П. і Ш. з запытаньнем: „Што вы тут робіце?".

На адказ п. В., а чаму гэта цікавіць неспадзяваных госьцяў, адзін з апошніх абвясьціў усіх арыштованымі. Ня ведаючы, з кім маюць дачыненьне вышэйназваныя грамадзяне-беларусы выйшлі разам з абвясьціўшымі аб іх арыштаваньні суб'ектамі на вуліцу і, калі прыйшоў паліцыянт, усе скіраваліся ў паліцэйскі камісарыят; па дарозе двох з вышэйсказаных суб'ектаў пастараліся ўцячы, а трэцяга затрымалі тыя, каго ён абвяшчаў арыштованымі. У камісарыяце выясьнілася, што гэта вураднік мясцовага Школьнага Куратарыюму, Стафан Маркевіч, другога ён назваў дырэктарам аднаго з віленскіх банкаў. Аб трэцім чалавеку з гэтае кампаніі ідзе сьледзтва.

У паліцэйскім камісарыяце быў аб гэтым здарэньні напісаны пратакол.

= **Распараджэньне аб мовах.** У № 85 „Dziennika Ustaw" апублікована цыркулярнае распараджэньне Рады Міністраў да закону аб мове, на якой будуць вясьці свае справы ўрадовыя ўлады і адміністрацыя ў самаўрадах усходніх ваяводзтваў. У гэтым распараджэньні, паміж іншым, знаходзім гэткія правілы:

Цэнтральныя ўлады і дзяржаўныя установы, ваенныя ўлады й інстытуцыі, дырэкцыі чугунак, таксама поштаў, тэлеграфаў і тэлефонаў на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі вядуць сваё дзелаводзтва як ува ўнутранай, так і ў вонкавай службе на дзяржаўнай мове.

Права падаваньня прашэньняў на матчынай мове даецца фізычным і юрыдычным асобам, апошнім згодна з фактычным грамадзянствам (дзяржаўнай прыналежнасьцю) і нацыянальнасьцю іхніх сяброў таксама і з пастановамі іхніх статутаў.

Ад асобаў, якія падаюць прашэньні або вусныя заявы на матчынай мове, па правілах ня трэба вымагаць доказаў, што яны маюць польскае грамадзянства і належаць да данае нацыянальнасьці. Калі-б аднак-жа на аснове зьместу прашэньня або па іншых акалічнасьцях паўсталі сур'ёзныя няпэўнасьці, што старана не задавальняе якога-нібудзь з вышэйпаказаных варункаў, дык трэба спыніць разгляд прашэньня або прыняцьце да ведама вуснае заявы, пакуль старана, паведамленая аб гэтым, не дакажа, што мае прадпісаныя законам варункі.

Права падаваньня прашэньняў і вусных заяваў на літоўскай мове польскімі грамадзянамі літоўскае нацыянальнасьці, што пражываюць ў раёне воласьцяў з літоўскай большасьцю ранейшага Троцкага павету, мае прытарнаваньне на тэрыторыі алькеніцкай воласьці ў віленска-троцкім павеце.

Карыстаньне правам, наданым польскім грамадзянам рускае (русінскае), беларускае й літоўскае нацыянальнасьцяў, падаваць прашэньні й вусныя заявы ўладам і установам на матчыных мовах можа мець прытарнаваньне толькі ў межах тэрыторыяў, азначаных у законе, датычна цывільных уладаў і адміністрацыйных установаў II і I інстанцыі (ваяводзкія ўрады, ізбы скарбовыя, школьныя куратары, земскія установы, горныя ўрады старазтва, ўрады і касы старазтва, школьныя інспэктары, інспэктары працы і г. д.) таксама самаўрадовых уладаў і установаў (соймікі, ваяводзкія аддзелы, павятовыя, валасныя рады і установы і г. д.) і іхніх закладаў.

Вураднікі чугунак, таксама паштовых, тэлеграфных і тэлефоных установаў на тэрыторыі ваяводзтваў: львоўскага, тарнопальскага, станіславоўскага, валынскага і палескага, пры вусных аб'ясьненьнях з публікаю, асабліва пры паштовых ваконцах і чугуначных касах, павінны гаварыць з мясцовым насяленьнем таксама на рускай (русінскай) мове, калі гэта спатрэбіцца. Тое самае мае адпаведнае прытарнаваньне датычна беларускай мовы на тэрыторыі ваяводзтва палескага, наваградзкага і віленскага адміністрацыйнага вокругу, а датычна літоўскае мовы—на тэрыторыі сьвянцянскага павету і алькеніцкае воласьці ў віленска-троцкім павеце.

---

## УСЯЧЫНА.

### Сьмелы Дон-Жуан.

У мінулым тыдні ў Варшаве да варочаўшайся з працы ўночы тэлефаністкі Я. Рабінскай падыйшоў нейкі незнаёмы мужчына і запрапанаваў ёй праводзіць яе да хаты.

Рабінская ня згодзілася на гэта і пачала ўцякаць ад начнога Дон-Жуана, які, пабачыўшы праяжджаўшага звозчыка, схваціў яе на рукі, сеў у павозку і казаў звозчыку ехаць.

Схвачаная Дон-Жуанам Р. пачала з непажаданых абняцьцяў вырывацца, але рукі незнаёмага трымалі яе моцна, як лапы шымпанзэ. Урэшце на рагу вул. Жалезнай блізка Хмельнай удалося ёй вырвацца і выскачыць на вуліцу.

Скок быў вельмі няўдачны: Рабінская сільна пабілася і цяжка зраніла сабе галаву аб камень. Дон-Жуан затрымаў звозчыка, падняў сваю ахвяру і, даведаўшыся аб яе адрэсе, адвёз яе дамоў і хутка ўцёк.

Гэтае здарэньне было ў цэнтры сталічнага места. Цікаўна, як паліцыя не заўважыла гэтага.

Рэдактар-Выдавец Язэп Салавей. Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.